НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
ШКОЛЬНАЙ ПЕДАГОГІКІ БССР

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ НАСТАЎНІКА

№ 2

МЕНСК — 1937

НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
ШКОЛЬНАЙ ПЕДАГОГІКІ БССР

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ НАСТАЎНІКА

## № 2

МЕНСК—1937



## ЗМЕСТ



Уп. Галоўлітбелу № 3342. Тыраж 10.000 экз. Заказ № 530. 2½ а

Друкарня АН БССР.

## Да ўвагі настаўнікаў

Даны зборнік уключае адказы на пісьмовыя запытанні настаўнікаў школ БССР.

Навукова-Даследчы Інстытут Школьнай Педагогікі праводзіць пісьмовую кансультацыю настаўнікаў пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школ па пытаннях комуністычнага выхавання ў школе, метадах выкладання паасобных школьных прадметаў, метадах навучання грамаце і пісьму.

Просім настаўнікаў прысылаць у Інстытут запытанні.

**Наш адрас: Менск, Унівэрсітэцкі Гарадок, Галоўны корпус, Навукова-Даследчы Інстытут Школьнай Педагогікі.**

*ДЫРЭКЦЫЯ.*

## ПЛАНЫ ПЕРШЫХ ДВУХ УРОКАЎ ПА ГІСТОРЫІ СССР ДЛЯ III—IV класаў

### Аб выкладанні гісторыі СССР па новаму падручніку

„Геніяльнае вучэнне Маркса—Энгельса аб гістарычнай ролі пролетарыята ў справе вызвалення чалавецтва ад капіталістычнага іга і аб стварэнні комуністычнага грамадства было пабудована на самым глыбокім веданні гісторыі чалавецтва, на старанным вывучэнні імі працэсаў класавай барацьбы. На такой-жа навуковай гістарычнай базе былі створаны і бяссмертныя творы асновапаложнікаў нашай партыі Леніна і Сталіна. Рэволюцыйная барацьба самых шырокіх мас народа, кіруемых пролетарскай комуністычнай партыяй, вялася на аснове гістарычнага вопыта. Перамога соцыялістычнай рэволюцыі, пабудова соцыялістычнага грамадства ў СССР сталі магчымымі таму, што наша партыя на чале з Леніным і Сталіным, верная заветам Маркса і Энгельса, будавала сваю тактыку і стратэгію, заўсёды ўлічваючы вопыт мінулага.

Узбраенне мас працоўных веданнем гісторыі народа ў нашай краіне дае магчымасць у многа разоў узмацніць нашу барацьбу з ворагамі соцыялістычнага грамадства і яшчэ больш паспяхова, яшчэ шпарчэй ажыццявіць вялікія мары чалавецтва—пабудаваць комуністычнае грамадства.

Першым крокам у азнаямленні працоўных нашай радзімы з яе выдатнай гісторыяй з'яўляецца падручнік па гісторыі СССР. Асноўныя ўказанні партыі аб стварэнні такога падручніка былі зроблены яшчэ тры гады назад. У 1934 годзе былі даны гістарычныя заўвагі таварышоў Сталіна, Кірава і Жданава аб канспекце падручніка па гісторыі СССР. Гэтыя заўвагі ляглі ў аснову той работы, якая была пачата ўсім гістарычным фронтам для перагляду сваіх пазіцый. З той прычыны, што над многімі гісторыкамі даўлела канцэпцыя Пакроўскага, трэба было гэтую канцэпцыю зжыць,

трэба было яе разграміць. Заўвагі таварышоў Сталіна, Кірава і Жданава памаглі выканаць гэтую задачу. Указанні таварыша Сталіна складальнікам падручніка па гісторыі партыі, а таксама пастановы Совета народных камісараў і ЦК партыі „Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР“ у 1934 годзе і пастанова ад 3 сакавіка 1936 года аб арганізацыі конкурса на лепшы падручнік для пачатковай школы па гісторыі СССР далі чоткія ўстаноўкі работнікам гістарычнага фронта. І ў апошняй пастанове, ад 22 жніўня 1937 года, адносна вынікаў конкурса, таксама даны цэлы рад надзвычайна важных гістарычных указанняў, у корані выпраўляючых усе тыя памылковыя ўстаноўкі, якія меліся ў гісторыкаў па цэламу раду пытанняў гісторыі СССР і метадалогіі гісторыі наогул.

Гэтая работа партыі і ўрада па выпраўленню памылковых установак у галіне гісторыі мела велізарнае, рашаючае значэнне для складальнікаў падручніка. Калі-б не было гэтых указанняў, аўтары падручніка, можна загадзя сказаць, не справіліся-б з атрыманым імі заданнем, таму што над імі ў вядомай меры даўлела яшчэ „школа“ Пакроўскага і яго канцэпцыі. Толькі пры дапамозе партыі ім удалося перамагчы гэтыя канцэпцыі і падыйсці да стварэння марксісцкага падручніка гісторыі.

Узорамі для такой работы паслужылі раней за ўсё класічныя творы Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна. Яны ляглі ў аснову ўсіх асабліва адказных месцаў падручніка, у аснову тых канцэпцый, на якіх пабудаван падручнік. Для таго, каб зразумець гэтыя канцэпцыі, засвоіць і культурна падаць іх настаўнікам нашай школы, неабходна вывучаць класікаў марксізма, асабліва тыя з іх работ, якія маюць дачыненне да гісторыі.

Цэнтральны камітэт партыі і асабіста таварыш Сталін адыгралі велізарную роль у рабоце па разгрому антымарксісцкіх, антыленінскіх канцэпцый „школы“ Пакроўскага, і гэта дало магчымасць аўтарам, працаваўшым над падручнікам, ачысціць яго змест ад гістарычнага смецця і ўнікнуць тых скажэнняў, якімі былі заражаны падручнік Пакроўскага і работы ворагаў народа—Ванага, Піанткоўскага і інш. Указанне ўрада і ЦК партыі на тое, што рашаючай умовай сталага засваення вучнямі курса гісторыі з'яўляецца захаванне гісторыка-храналагічнай паслядоўнасці ў ізлажэнні гістарычных падзей з абавязковым замацаваннем у памяці вучняў гістарычных з'яў, гістарычных дзеячоў і гістарычных дат, мела важнейшае значэнне пры вывучэнні тэматыкі падручніка і асобных яго частак“ (з стэнаграмы даклада праф. Шэстакова на кароткатэрміновых курсах маскоўскіх настаўнікаў 28 жніўня г. г., „Исторический журнал“, № 9, 1937 г.).

## Планы ўрокаў

У бліжэйшы час ва ўсіх школах БССР пачнецца выкладанне гісторыі СССР па падручніку праф. Шэстакова.

Ідучы насустрач шматлікім просьбам настаўнікаў, Навукова-Даследчы Інстытут Школьнай педагогікі БССР распрацаваў планы першых двух урокаў па гісторыі для 3-х і 4-х класаў. Урокі распрацаваны на падставе вопыту работы школы і матэрыялу падручніка „Кароткі курс гісторыі СССР" пад рэд. праф. Шэстакова.

### Першы ўрок—„Наша радзіма"

Задача гэтага ўрока—даць вучням яснае ўяўленне аб нашай радзіме, яе велічы, аб тым, што такое гісторыя СССР і для чаго трэба яе вывучаць.

#### Дыдактычны матэрыял да першага ўрока

1. Палітычная карта света.
2. Карціны і інш. малюнкі, ілюструючыя наша соцыялістычнае будаўніцтва. (Пры ілюстраванні нашых сталіц—Масквы і Менска—паказаць вучням для кантраста асобныя віды старой Масквы і Менска.)

#### План урока

Настаўнік пачынае ўрок так: „Рэбяты, у нас сёння выдатны дзень: па пастанове нашай комуністычнай партыі і совецкага ўрада мы пачынаем вывучаць новы вучэбны прадмет—„Гісторыю СССР" (піша на дошцы: „Гісторыя СССР"). На гэтым уроку я растлумачу вам, што такое гісторыя і для чаго трэба яе вывучаць".

Далей урок вядзецца па наступнаму плану:

1. СССР—краіна соцыялізма. У яркай і жывой форме трэба даць вучням малюнак прыродных багаццяў нашай краіны. Расказаць ім аб народах, яе насяляючых, якія дружна працуюць на шчасце нашай соцыялістычнай радзімы, аб соцыялістычнай прамысловаці і сельскай гаспадарцы, аб нашай Чырвонай арміі, якая ахоўвае нас ад нападу капіталістычных дзяржаў, аб шчаслівым жыцці дзяцей у нашай краіне. Расказаць аб нашых правадырах—Леніне і Сталіне, аб нашых героях. Затым прапанаваць вучням дапоўніць расказ настаўніка тым, што яны ведаюць аб нашай соцыялістычнай краіне. З гэтай гутаркі зрабіць вывад: *наша соцыялістычная краіна самая магутная і перадавая ў свеце.*

2. Наша радзіма 20 год назад—да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі.

Настаўнік коратка расказвае аб імперыялістычнай вайне, аб панаваўшай тады ў нашай краіне разрусе, аб прыгнёце, які цярпелі народы нашай краіны пад уладай цара, капіталістаў і памешчыкаў. Настаўнік расказвае аб ролі комуністычнай партыі, аб Леніне і Сталіне, якія паднялі народ на барацьбу за шчаслівую і свабодную социялістычную радзіму, у выніку чаго рабочыя і сяляне ўзялі ўладу ў свае рукі, сталі гаспадарамі фабрык, заводаў, зямлі і прыступілі да будаўніцтва новага социялістычнага жыцця.

З гэтага расказа зрабіць вывад: *шлях да перамогі паказала нам Вялікая партыя комуністаў-большэвікоў на чале з таварышамі Леніным і Сталіным.*

3. Наша радзіма многа год назад. Даць вучням малюнак прыгнёту, пад якім знаходзіліся працоўныя нашай краіны многа год таму назад. Расказаць аб тым, што працоўныя тады змагаліся са сваімі прыгнятальнікамі. „Аб усім гэтым вы даведаецеся з гісторыі, якая „раскажа вам, як жылі людзі ў старыну, як змагаліся народы СССР са сваімі прыгнятальнікамі і ворагамі, як яны дабіліся таго, што наша радзіма стала краінай социялізма" (з падручніка „Кароткі курс гісторыі СССР"). Мы павінны вывучаць не толькі гісторыю СССР, але і гісторыю іншых краін і народаў, і пра гэта ў падручніку ёсць цікавы матэрыял".

Настаўнік прапануе вучням расказаць сваімі словамі аб тым, чаму іх навучыць гісторыя. Калі трэба, прачытвае з імі яшчэ раз з падручніка вышэй паданую вытрымку.

4. Для чаго нам вывучаць гісторыю? Тав. Ленін многа вывучаў гісторыю і добра яе ведаў. Таварыш Сталін, як і таварыш Ленін, многа ўвагі аддаваў і аддае гісторыі ўсіх народаў света, а таксама народаў, насяляючых нашу краіну. Усё гэта дапамагала нашым правадырам арганізоўваць працоўныя масы на барацьбу з капіталістамі і памешчыкамі за социялістычнае жыццё; усё гэта дапамагае зараз будаваць социялізм у СССР. Таму нам, будаўнікам социялізма, трэба вучыцца ў нашых правадыроў, трэба добра ведаць гісторыю. Таварышы Сталін, Жданаў і Кіраў самі кіравалі складаннем гэтага падручніка, гэтага лепшага падарунка совецкім дзецям.

Мы, совецкія патрыёты, любім нашу краіну. Толькі ў нашай краіне, краіне социялізма, дзеці і дарослыя жывуць шчасліва. Каб лепш уявіць сабе наша шчаслівае социялістычнае жыццё, каб зразумець, як мы ў барацьбе з буржуазіяй і памешчыкамі яго заваявалі, каб яшчэ больш ясна ўяўляць сабе шляхі будаўніцтва социялізма, нам трэба ведаць, як людзі жылі да нас, як яны змагаліся са сваімі прыгнятальнікамі.

Ворагі працоўных ненавідзяць наш народ, яны наўмысна скажаюць гісторыю СССР. Вораг народа Бухарын называў

рускі народ „нацыяй абломавых“, гэта значыць людзей лянівых і ні да чаго непрыгодных. Гэта з'яўляецца злосным паклёпам. Наш народ, здолеўшы пабудаваць першую ў свеце соцыялістычную дзяржаву, з'яўляецца сапраўды гераічным, таленавітым і высока культурным народам.

Каб больш паспяхова перамагаць ворагаў, трэба ведаць, як наш народ раней вёў барацьбу са сваімі ворагамі і як ён іх перамагаў.

5. Работа над падручнікам. Прапанаваць двум вучням прачытаць асобнымі часткамі ўрок. Растлумачыць вучням незразумелыя словы ў тэксце. Пасля гэтага прапанаваць пераказаць урок.

6. Заданне на дом. Растлумачыць вучням, як трэба рыхтаваць урок: чытаць і завучваць не асобныя сказы, а расказ у цэлым. Уважліва прачытаць 2—3 разы і потым дома каму-небудзь з дарослых пераказаць. Даць заданне вучням вывучыць да наступнага ўрока раздзел „Наша радзіма“.

*Заўвага.* Раздзелы 2-гі і 3-ці гэтага плана намі ўведзены для таго, каб падвесці вучняў да разумення таго, што такое гісторыя.

Для таго каб настаўнік уявіў сабе больш канкрэтна асобныя раздзелы нашага плана, падаем урок гісторыі ў 3-м класе па тэме „Наша радзіма“, праведзены ў адной з школ горада Менска.

## Запіс урока гісторыі ў III класе на тэму „Наша радзіма“

Яшчэ да пачатку ўрока настаўніца павесіла на сцяне палітычную карту света і ўнесла ў клас фанерны шчыт з прымацаванымі на ім ілюстрацыямі знешняга выгляду асобных народаў нашай радзімы, партрэтаў славутых людзей—герояў нашай краіны. Далей змешчаны асобныя віды, паказваючыя соцыялістычную прамысловасць і сельскую гаспадарку, віды вырасшых за апошнія гады гарадоў. На гэтым-жа шчыце паказаны 2 віды новай Масквы—Ахотны рад і вестыбюль метро. Падабраны былі таксама 2—3 віды новых нашых менскіх будынкаў і 2 віды старога Менска—конка і Камароўка. Дзве ілюстрацыі паказвалі дзецям апошнія манеўры нашай Чырвонай арміі. (Усе гэтыя малюнкі былі падабраны з розных перыядычных выданняў.) На шчыце былі змешчаны партрэты таварышоў Леніна, Сталіна і Варашылава.

Ужо з'яўленне гэтага шчыта вельмі павялічыла жаданне вучняў хутчэй пачаць урок гісторыі. Настаўніца застала вучняў прыціхшымі і мела магчымасць, не трацячы часу, адразу прыступіць да ўрока.

Свой урок настаўніца пачала наступнымі словамі:

„Рэбяты, сёння мы з вамі пачнем вывучаць тое, чаго вы

так доўга чакалі,—„Гісторыю СССР". (Настаўніца піша на дошцы буйнымі літарамі выразна—„Гісторыя СССР".) Далей яна працягвае: „Тыя вучні, якія да вас вучыліся ў 3 класе, гісторыі не вывучалі. Зараз, дзякуючы клопатам партыі і асабіста таварыша Сталіна, мы маем добры падручнік па гісторыі СССР". (Бярэ ў рукі падручнік, беражна і з відавочнай павагай да яго паказвае вучням.) Гэты ўступ заняў 2 мінуты і стварыў у класе вядомую прыўзнятасць, урачыстасць. У класе стаяла абсалютная цішыня.

Далей настаўніца звяртаецца да вучняў з запытаннем: „Як называецца наша радзіма?" Па выкліку настаўніцы адзін з вучняў адказвае: „СССР". Настаўніца паказвае напісанае на дошцы—„СССР" і прапануе аднаму з вучняў растлумачыць словы: Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Услед за вучнем яна выразна і раздзельна вымаўляе: „Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік—так называецца наша Радзіма".

Потым настаўніца паказвае СССР на карце, параўноўваючы размеры нашай краіны з тэрыторыяй Германіі і Польшчы. Прапануе вучням абвесці граніцы СССР, Германіі і Польшчы. Чуваць усклікванні: "О, якая вялікая наша зямля!". Настаўніца з яўным пачуццём гордасці гаворыць: „Так, рэбяты, наша краіна самая вялікая ва ўсім свеце". Далей ідзе яркі расказ настаўніцы аб нашай краіне. У працэсе расказа настаўніца паказвае малюнкі народаў СССР (выкарыстоўваецца вокладка журнала „СССР на стройке", прымацаваная да шчыта). „Усе гэтыя народы ў поўнай дружбе будуюць сацыялізм у нашай краіне".

Настаўніца называе дзецям некалькі вядомых ім новапабудаваных гарадоў, буйных фабрык і заводаў, якія ёсць у нашай краіне, у тым ліку завод станкабудаўніцтва імя тав. Варашылава ў Менску; расказвае аб сацыялістычнай сельскай гаспадарцы нашай краіны. Затым настаўніца працягвае: „Наша краіна стала зусім не той, якой яна была да рэвалюцыі". (Паказвае ілюстрацыі Масквы і Менска, параўноўваючы старыя віды з новымі.)

На вядомым вучням матэрыяле (менскі Дом Чырвонай арміі, Дом Урада і інш.) настаўніца паказвае, як змяняецца горад Менск. Настаўніца працягвае: „У нашай краіне ўсё належыць народу, у нас няма эксплаататараў, дружна працуюць усе народы. Вялікі савецкі народ высунуў многа выдатных людзей—герояў нашай краіны". (Настаўніца называе вучням рад славутых людзей нашай краіны, спыняючыся асабліва на героях нашай Чырвонай арміі.)

Далей настаўніца пераходзіць да апісання Чырвонай арміі. Яна напамінае вучням, што мы жывем блізка каля польскай граніцы. „Але,—гаворыць настаўніца,—мы можам

спакойна будаваць і вучыцца, наша Чырвоная армія самая моцная ў свеце, ёю кіруе друг тав. Сталіна—тав. Варашылаў, які быў некалькі дзён таму назад на беларускіх манеўрах і прымаў парад войск. (Паказвае вучням фото-здымак парада.)

„Чаму-ж наша краіна стала такой багатай і магутнай?"—задае настаўніца запытанне і сама-ж адказвае: *„Наша краіна магутная і багатая таму, што намі кіруе комуністычная партыя і наш правадыр Іосіф Вісарыёнавіч Сталін"*. Апошнія словы былі сказаны асабліва чотка. (Гэтая частка ўрока заняла 12 мінут.)

„Ці была такой шчаслівай наша краіна 20 год таму назад?"—запытвае настаўніца. З усіх бакоў чуваць: „Не!". „Правільна, рэбяты,—гаворыць настаўніца,—дрэнна жылося працоўным у нашай краіне да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі". Настаўніца расказвае аб дрэнным жыцці рабочых і сялян да рэволюцыі, напамінае вучням, што толькі сёння яны чыталі ў класе твор Некрасава „Волчица", дзе апісваецца дрэннае жыццё сялян. Далей ідзе расказ аб вайне, аб голадзе, аб разрусе. Настаўніца падае некалькі яркіх прыкладаў, характарызуючых жыццё працоўных да рэволюцыі, падкрэслівае, што тады толькі беднякі цярпелі, а багачам жылося добра.

Настаўніца прапануе вучням расказаць, *што* яны чулі аб тым часе. Адзін вучань расказвае са слоў свайго бацькі, як той хаваўся ў шафе ў час імперыялістычнай вайны, не жадаючы ісці на фронт. Вучняў гэты факт зацікавіў. У класе ажыўленне. Настаўніца тут-жа выкарыстоўвае гэты факт: „Працоўныя тады не хацелі ваяваць, таму што вайну пачалі цар, буржуазія і памешчыкі для сваёй выгады. Цяпер у выпадку нападу на нас працоўныя, безумоўна, самі добраахвотна пайшлі-б на фронт абараняць сваю соцыялістычную радзіму.

Дваццаць год таму назад пад кіраўніцтвам таварышоў Леніна і Сталіна рабочыя і сяляне прагналі буржуазію і памешчыкаў і захапілі ўладу ў свае рукі. Праз месяц мы будзем святкаваць 20-годдзе Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі". (Гэтая частка ўрока заняла 5 мін.) Затым настаўніца ў кароткіх словах рысуе жыццё людзей некалькі сот год таму назад. Напамінае ім аб тым, што тады прыгнечаныя многа разоў прабавалі паўстаць і звергнуць уладу багатых, але да Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі паўстанні канчаліся няўдала для працоўных.

Так настаўніца прыводзіць вучняў да думкі, што ўжо многа год на нашай зямлі жывуць людзі, многа год таму назад працоўныя пачалі барацьбу з эксплаататарамі. „Аб жыцці людзей на нашай зямлі многа год таму назад і ў ня-

даўні час вы даведаецеся з гэтай кнігі—„Кароткі курс гісторыі СССР“. Настаўніца адкрывае кніжку і прачытвае вучням абзац „Чаму навучыць гэтая кніга“ з урока „Наша радзіма“.

(Гэтая частка ўрока заняла 4 мінуты.)

Затым настаўніца прапануе аднаму з вучняў яшчэ раз прачытаць гэты абзац. Астатнія вучні сочаць па падручніку. Далей яна прапануе аднаму з вучняў расказаць змест прачытанага (замацаванне матэрыялу заняло 3 мінуты).

Настаўніца звяртаецца да вучняў з запытаннем: „Для чаго нам трэба вывучаць гісторыю?“ Вучні паднімаюць рукі. Першы выкліканы вучань гаворыць: „Каб ведаць, як добра цяпер нам жывецца“. Настаўніца патрабуе поўнага адказу. Вучань адказвае, а настаўніца затым больш дакладна фармуліруе яго думку: „Нам цяпер, і дарослым і дзецям, жыць стала добра і весела; за гэта мы любім нашу радзіму. Мы яшчэ больш будзем яе любіць, калі параўнаем наша цяперашняе добрае жыццё з тым, як дрэнна жылі працоўныя ў нашай краіне раней.“ З асобных адказаў вучняў настаўніца паступова фармуліруе думку, што вывучаць гісторыю трэба для таго, каб ведаць, як працоўныя ў барацьбе са сваімі ворагамі пабудавалі соцыялістычнае грамадства, каб ведаць, як лепш змагацца з цяперашнімі нашымі ворагамі.

Затым настаўніца расказвае вучням аб Леніне, які добра ведаў гісторыю, аб таварышах Сталіне, Кіраве і Жданаве, якія кіравалі складаннем гэтага падручніка, і канчае заклікам да вучняў добра вывучаць гісторыю, „бо гэта наш абавязак перад комуністычнай партыяй і тав. Сталіным“.

(Уся частка ўрока заняла 32 мінуты.)

Астатнія 13 мінут настаўніца выкарыстала наступным чынам:

1. Праверыла, ці ўсе вучні зразумелі матэрыял. Для гэтага яна паставіла перад вучнямі рад пытанняў:

„Пералічыце, чым багата наша краіна?“. Па гэтаму пытанню адказвалі 4 вучні, дапаўняючы адзін другога.

„Чаму ў нашай краіне лепш жыць працоўным, чым у другіх краінах?“.

„Як жылі працоўныя 20 год таму назад?“. На гэтае пытанне адказваў адзін вучань, які расказаў аб тым, як яго дзеда ў 1905 годзе казакі збівалі бізунамі. „Вось бачыце, рэбяты,—гаворыць настаўніца,—як здзекваліся з працоўных цар, памешчыкі і капіталісты, пакуль рабочыя і сяляне іх не зверглі“.

„Чаму нас вучыць гісторыя?“.

„Чаму нам трэба вывучаць гісторыю?“.

Пасля таго як настаўніца пераканалася з адказаў, што вучні матэрыял зразумелі, яна прапанавала вучням адкрыць

падручнік на 3-й старонцы і сачыць за вучаніцай, якая прачытала ўголас увесь урок.

Настаўніца пасля чытання растлумачыла вучням, чаму ў кнізе наша рэспубліка названа брацкім саюзам і чаму капіталісты і памешчыкі названы ў падручніку паразітамі.

З прычыны таго, што да званка асталося толькі 2 мінуты, расказаць урок вучні не паспелі. Настаўніца растлумачыла вучням, як трэба вывучаць урок і задала ім вывучыць „Наша радзіма“.

Настаўніца параіла вучням вывучаць урок не асобнымі сказамі напамяць, а прачытаць увесь урок 2—3 разы, затым расказаць яго сваімі словамі каму небудзь з дамашніх. Яна раіла вучням чытаць урок уголас, але не вельмі гучна.

Урок на гэтым скончыўся.

### Метадычныя заўвагі да ўрока

1. Так званы арганізацыйны момант не ўзяў з бюджэта часу ўрока ні адной мінуты: вучні ведалі загадзя аб тым, што ў іх будзе ўрок гісторыі. Паяўленне ў класе шчыта з ілюстрацыямі і геаграфічнай карты павялічыла цікавасць да ўрока.

2. Дадатным трэба лічыць і тое, што на ўроку настаўніцай былі ўжыты featuresрознастайныя метады і прыёмы: расказ, гутарка, свабоднае выказванне вучняў, карыстанне ілюстрацыямі, работа над падручнікам; умела была выкарыстана на ўроку геаграфічная карта, хаця вучні ў 3-м класе навыку ў карыстанні геаграфічнай картай яшчэ не маюць.

3. Заслугоўвае таксама ўвагі і паспяховая спроба настаўніцы зрабіць для вучняў больш яснымі пытанні соцбудаўніцтва пры дапамозе скарыстання знаёмых, блізкіх фактаў (будаўніцтва Менска, манеўры Чырвонай арміі і т. д).

4. Як відаць з гэтага ўрока, работа над падручнікам, асабліва ў 3-м класе (славарная, чытанне, разбор і пераказ тэкста), павінна заняць вялікае месца на ўроку, бо ў вучняў 3-га класа вопыт карыстання падручнікам яшчэ недастатковы.

Хаця гэты ўрок нельга лічыць бездакорным, але і на ім нашы настаўнікі могуць пераканацца, што для таго, каб даць добры ўрок, трэба, галоўным чынам, адмовіцца ад шаблона і да кожнага ўрока падыходзіць творча.

Любы савецкі настаўнік у любой нашай савецкай школе можа і павінен правесці ўрок гісторыі не толькі не горш гэтага, але і лепш.

### Другі ўрок—„Як людзі жылі ў далёкім мінулым“

Мэтай другога ўрока з'яўляецца паказ дзецям аграмаднай працягласці і паступовай змены жыцця людзей на зямлі ва ўмовах першабытнага комунізма.

Нельга дапусціць, каб гэты ўрок быў толькі абстрактна-лагічным. Яго трэба насыціць адпаведнай колькасцю рэальных прадметаў.

У парадку падрыхтоўкі да гэтага ўрока настаўнік павінен набыць карціны прылад працы першабытнага чалавека, малюнкі першабытнага чалавека і інш. Мэтазгодна, каб настаўнік (з прыцягненнем некаторых вучняў) падрыхтаваў узоры першабытных прылад працы (молат, стрэлы, іголку з рыб'яй косці і інш.).

Настаўніку трэба мець на ўвазе, што гэты ўрок мае таксама вялікае значэнне ў справе антырэлігійнага выхавання вучняў.

**План урока**

Настаўнік выклікае аднаго-двух вучняў для расказу мінулага ўроку. Затым праводзіцца кароткая гутарка з вучнямі, каб пераканацца ў тым, наколькі яны засвоілі матэрыял мінулага ўрока.

Раіцца правесці гутарку з вучнямі аб тым, як змянілася наша мясцовасць за апошнія гады.

Пасля гэтага настаўнік гаворыць вучням прыблізна наступнае: „Аб тым, што было 20—30 год назад, мы можам даведацца з кніг і гутарак з жывымі людзьмі—сведкамі тых падзей. Нават аб тым, што было 500—600 год таму назад, мы таксама можам даведацца з старых кніг. А як нам даведацца аб тым, што было вельмі многа год таму назад, калі яшчэ не было кніг?“. Расказаць вучням, што вучоныя даведаліся аб жыцці першабытных людзей па раскопках, па нагляданню за жыццём людзей, стаяўшых на першабытнай ступені культуры, па рэштках старажытных слоў у нашай сучаснай мове (страляць ад слова страла і т. д.); расказаць, што робіць савецкая ўлада для аховы помнікаў старажытнасці; расказаць коратка, як фашысцкія інтэрвенты ў Іспаніі знішчаюць каштоўныя помнікі старыны (Мадрыд, Герніка).

3. Ж ы ц ц ё  п е р ш а б ы т н а г а  ч а л а в е к а. Узяўшы ў аснову артыкул Энгельса „Роль працы ў працэсе ачалавечвання малпы“, ярка апісаць вучням знешні выгляд першабытнага чалавека, звярнуць іх увагу на знешнія асаблівасці першабытнага чалавека (надброўныя дугі, пакатасці ілба, ніжняя чэлюсць, стан чалавека, даўжыня рук) у параўнанні з цяперашнім чалавекам. Гэтае тлумачэнне настаўнік павінен ілюстраваць на карціне „Першабытны чалавек“, якая ёсць амаль ва ўсіх школах.

Затым настаўнік павінен паказаць вучням карціны і ўзоры першабытных прылад вытворчасці, малюнкі палявання першабытнага чалавека, яго жылля, малюнкі здабычы агня,

харчоў і т. д. (калі настаўнік умее маляваць, ён можа ў час гутаркі намаляваць на дошцы жыллё першабытнага чалавека, прылады, якімі ён здабываў агонь, і інш.); паказаць вучням умовы жыцця першабытнага чалавека: яго прылады вытворчасці—палеаліт, неаліт і металы, спосабы здабычы харчоў—здабыча карэнняў, паляванне, пасевы; жыллё—пяшчэры, свайныя пабудовы і інш.; здабычу і роль агня ў той час, адзенне. Падкрэсліць вучням вялікую залежнасць першабытнага чалавека ад прыроды. Даць вучням яскравае ўяўленне аб надта цяжкіх умовах жыцця, у якіх знаходзіўся першабытны чалавек. Растлумачыць, што развіццё першабытнага чалавека і палепшанне яго ўмоў жыцця праходзіла на працягу многіх тысяч год.

Настаўнік павінен памятаць словы Леніна: „Ніякага залатога века пазадзі нас не было, і першабытны чалавек быў зусім падаўлен цяжкасцю існавання, цяжкасцю барацьбы з прыродай“ (Ленін, т. IV, стар. 182.)

Скончыць тлумачэнне ўказаннем на тое, што ў першабытных людзей усё было агульным і ўсе былі роўнымі ў сваім цяжкім працоўным жыцці.

4. Праверыць, наколькі вучні зразумелі ўрок, паставіўшы ім некалькі пытанняў.

5. Задаць вучням вывучыць адпаведны матэрыял па падручніку, папярэдне прачытаўшы ім у класе гэты матэрыял і растлумачыўшы цяжкія месцы. Прапанаваць вучням намаляваць дома ў сшытку першабытныя прылады вытворчасці (такія работы развіваюць творчую фантазію вучняў).

*Заўвага 1.* Трэба дабівацца, каб у вучняў у выніку ізлажэння настаўніка стварыліся пэўныя яркія вобразы жыцця першабытнага чалавека.

2. У продажы ёсць дыяпазітывы па першабытнаму грамадству, якія трэба набыць і выкарыстаць у спецыяльна адведзены для гэтага час па-за ўрокамі. Для дэманстрацыі ў адзін прыём трэба адабраць не больш 7—8 дыяпазітываў, але ўсебакова іх растлумачыць, загадзя абдумаўшы змест тлумачэння (ён павінен быць кароткім, каб доўга не затрымліваць вучняў).

## ЛІТАРАТУРА ДА ПЕРШЫХ 2-х УРОКАЎ

1. Ленин—„Лекция о государстве“, т. XXIV.
2. Ленин—„Государство и революция“, том XXI.
3. Ленин—„О национальной гордости великороссов“.
4. Энгельс—„Происхождение семьи, частной собственности и государства“.
5. Энгельс—„Роль труда в процессе очеловечения обезьяны“.
6. Крупская—„Наша родина“, журнал „Наша родина“, № 1, 1937 г.

У парадку падрыхтоўкі настаўніка да выкладання „Кароткага курса гісторыі СССР“ яму неабходна прачытаць:

1. „Замечания товарищей Сталина, Кирова, Жданова о конспекте учебника по „Истории СССР“ ад 8 жніўня 1934 г.

2. „Замечания товарищей Сталина, Кирова, Жданова о конспекте учебника новой истории“ ад 9 жніўня 1934 г.

3. Письмо тов. Сталина в редакцию журнала „Пролетарская революция“.

4. „Пастанова журы ўрадавай камісіі па конкурсу на лепшы падручнік для III і IV класаў сярэдняй школы па гісторыі СССР“.

5. „Знать историю СССР“—перадавы артыкул „Правды“ ад 22 жніўня 1937 г.

6. „Новый учебник истории СССР“—артыкул Осіпава ў „Правде“ ад 25 жніўня 1937 г.

7. „Как преподавать историю СССР по новому учебнику“—артыкул праф. Шэстакова ў газеце „За коммунистическое просвещение“ ад 1 верасня 1937 г.

8. „Отлично организовать преподавание истории“—перадавы артыкул у газеце „За коммунистическое просвещение“ ад 17 верасня 1937 г.

9. „Краткий курс истории СССР“—артыкул Маева ў газеце „За коммунистическое просвещение“ ад 27 жніўня 1937 г.

10. „Как создавался учебник истории СССР“—артыкул праф. Шэстакова ў газеце „За коммунистическое просвещение“ ад 29 жніўня 1937 г.

11. „Знать историю своей родины“—перадавы артыкул у „Комсомольской правде“ ад 22 жніўня 1937 г.

12. „Краткий курс истории СССР“—журнал „Большевик“, № 17, 1937 г.

*Старшы навуковы работнік НДІ школьнай педагогікі*

*М. ЛЯВІЦКІ.*

---

# ЯКУЮ РАБОТУ ТРЭБА ПРАВЕСЦІ З ВУЧНЯМІ Ў ШКОЛЕ Ў СУВЯЗІ З ВЫБАРАМІ Ў ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ СССР

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА Б. К., г. БАРЫСАЎ)

Узнятае Вамі пытанне з'яўляецца зусім своечасовым. Школа можа і павінна правесці сярод вучняў вялікую выхаваўчую работу ў сувязі з выбарчай кампаніяй у Вярхоўны Совет СССР.

Пастанову Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР аб дні выбараў у Вярхоўны Совет вучні нашых школ сустрэлі з вялікім захапленнем. На мітынгах, якія праходзілі ў школах, вучні выказалі сваё гарачае жаданне і гатоўнасць дапамагчы дарослым у падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет. Гэта зусім зразумела. Наша школа не ізалявана ад палітычнага жыцця краіны. Кампанія па выбарах у Вярхоўны Совет СССР уздымае палітычную актыўнасць нашых вучняў, узнімае іх жаданне азнаёміцца з асаблівасцямі нашага выбарчага закона, тэхнікай выбараў і т. д. Вучні імкнуцца адзначыць дзень выбараў у Вярхоўны Совет СССР, як дзень вялікага свята *не толькі дарослых, але і дзяцей.*

Задача дырэктароў і заг. школ, класных кіраўнікоў, важатых, комсоргаў—яшчэ больш паглыбіць і ўзначаліць узросшую палітычную актыўнасць дзяцей, узяць у свае рукі кіраўніцтва ўсёй работай па арганізацыі дапамогі вучняў дарослым у падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

## Што трэба правесці ў школе ў сувязі з выбарчай кампаніяй у Вярхоўны Совет СССР?

1. Усім выкладчыкам школы трэба паставіць задачай выкарыстаць навучальны матэрыял для больш глыбокага разумення вучнямі сутнасці Сталінскай Канстытуцыі і „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР".

а) На ўроках Канстытуцыі ў 7-м класе трэба паралельна з праходжаннем чарговых тэм па праграме азнаёміць вуч-

няў таксама і з адпаведнымі раздзеламі „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР“.

б) Урокі новай гісторыі ў 8-х і 9-х класах павінны быць выкарыстаны для таго, каб растлумачыць вучням сутнасць буржуазнага парламентарызма, падкрэсліць глыбокую прынцыповую розніцу, якая існуе паміж выбарамі ў буржуазных краінах і ў нашай соцыялістычнай краіне.

в) На ўроках арыфметыкі трэба падабраць рад задач з лічбовым матэрыялам на тэму аб выбарчай кампаніі. У аснову такіх задач можна пакласці прыклад арыфметычнай задачы, паданай у „Учительской газете“ ад 17/X у артыкуле тав. Смірнова „Воспитательная работа на уроке математики“.

г) На ўроках мовы і літаратуры можна прапанаваць вучням напісаць дамашнія ці класныя ўкладанні на тэму аб выбарах. На ўроках чытання можна падабраць адпаведны матэрыял з газет, журналаў, брашур і т. д.

Неабходна памятаць, што гэтая работа настаўніка ні ў якай меры не павінна нарушаць сістэматычнасці і паслядоўнасці ў праходжанні праграмнага матэрыялу.

2. Класныя кіраўнікі, важатыя піонератрадаў павінны ў гутарках з вучнямі на зборах атрадаў разгарнуць растлумачальную работу па пытанню аб сэнсе і значэнні выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Вучням неабходна растлумачыць, што СССР ідзе да выбараў у свой Вярхоўны Совет (Саюзны Совет і Совет Нацыянальнасцей) магутным і непераможным. З законнай гордасцю наш народ падводзіць вынікі сваёй дваццацігадовай барацьбы за соцыялізм. Партыя Леніна—Сталіна прывяла наш народ да шчаслівага і радаснага жыцця. Партыя вырасціла і выпеставала наш совецкі народ. Бязмежна любоў і давер'е нашага народа да комуністычнай партыі і яе кіраўніка—вялікага Сталіна, творца самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі. Новы выбарчы закон, пабудаваны на аснове Сталінскай Канстытуцыі, выражае волю і інтарэсы ўсяго совецкага народа. Ён заваёван намі пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў у непрымірымай барацьбе з ворагамі соцыялізма. Працоўныя нашай краіны будуць галасаваць за выпрабаваных, правераных, дастойных барацьбітоў нашай соцыялістычнай радзімы. Толькі той будзе абраны ў Вярхоўны Совет, хто да апошняй кроплі крыві адданы справе рабочага класа, хто здольны змагацца за шчасце народа, за комунізм. Ні адзін з трацкісцка-бухарынскіх фашысцкіх гадаў, шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў не павінен пранікнуць у органы кіравання совецкай дзяржавай. Удзесяцярым пільнасць, яшчэ шчыльней згуртуемся вакол нашай партыі і ператворым нашы советы ў крэпасць, недаступную ворагам народа!

Дзень 12 снежня ўвойдзе ў гісторыю многамільённага совецкага народа, як выдатны радасны дзень. Гэта будзе

сапраўднае ўсенароднае свята ўсіх працоўных, дзень найвялікшай урачыстасці совецкай социялістычнай дэмакратыі, дзень яднання і брацтва працоўных усіх нацый Совецкага Саюза. Гэта будзе дэманстрацыя велізарнейшых заваёў і перамог социялізма, якія атрыманы совецкім народам пад кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна—Сталіна. Усе працоўныя нашай краіны павінны добра ведаць „Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР".

Удзел у выбарах—вялікі гонар для кожнага грамадзяніна СССР.

Сталінская Канстытуцыя і дзень 12 снежня—дзень выбараў у Вярхоўны Совет СССР—будуць служыць пуцяводнай зоркай для працоўных усяго света ў іх барацьбе за вызваленне з-пад прыгнёту капіталізма.

3. На аснове растлумачальнай работы аб значэнні выбарчай кампаніі вучні, пачынаючы з 5-га класа, павінны ўзяцца за глыбокае вывучэнне выбарчага закона, ва ўсіх класах павінны быць створаны гурткі па вывучэнню выбарчага закона. Прыкладны план работы такога гуртка змешчан у журнале „Спутник агитатора" № 18 за 1937 г. Гурткі 8-га, 9-га і 10-га класаў зусім добра могуць справіцца з вышэй адзначаным планам. У 5, 6 і 7-х класах неабходна будзе некалькі зменшыць аб'ём заняткаў. Асноўным метадам работы гурткоў 8—10 класаў з'яўляецца чытанне і разбор адпаведных раздзелаў Палажэння па плану заняткаў гуртка. Перад тым, як пачаць вывучэнне паасобных раздзелаў Палажэння аб выбарах, кіраўнік гуртка коратка знаёміць вучняў са зместам гэтых заняткаў. Кіраўнік гуртка будуе сваю работу на аснове даклада тав. Сталіна і прамовы тав. Молатава на VIII з'ездзе Советаў.

У 5-х, 6-х і 7-х класах няма патрэбы чытаць кожны пункт Палажэння паасобку. Вынікі будуць лепшымі, калі кіраўнік у жывой і яркай форме раскажа дзецям змест Палажэння.

Кіраўнік павінен у рабоце гуртка выкарыстаць мастацкую літаратуру, адпаведныя артыкулы з газет, журналаў, дзе даецца яркі паказ таго, як выбіралі ў царскую Думу. Можна таксама выкарыстаць паасобныя ўспаміны рабочых і калгаснікаў аб тым, як праследваліся рэволюцыйныя дэпутаты Думы, і т. д. Разам з гэтым неабходна выкарыстаць і тыя артыкулы ў газетах і журналах, якія растлумачваюць социялістычны характар совецкіх выбараў, адлюстроўваюць захапленне, з якім наш народ сустракае выбары, і т. д. Заняткі гуртка павінны быць так пабудаваны, каб вучні добра засвоілі Палажэнне аб выбарах. У пачатку кожных заняткаў кіраўнік павінен шляхам пытанняў да ўсіх удзельнікаў гуртка высветліць, як імі засвоены папярэдні матэрыял. Пасля таго як гурток пройдзе ўвесь матэрыял, у мэ-

тах падагульнення і замацавання матэрыялу трэба правесці апытанне ўдзельнікаў гуртка па ўсёй праграме.

Заняткі гурткоў разлічаны на 6—7 разоў працягласцю, прыкладна, у 1—1½ гадзіны. Кіраўнікоў гурткоў вылучае дырэктар з складу выкладчыкаў і вучняў 10 х класаў.

4. Вучні, якія самі добра азнаёміліся з „Палажэннем аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР“, могуць весці растлумачальную работу ў сям'і, сярод суседзяў і т. д. У газеце „Пионерская правда“ апісана досыць багата выпадкаў, калі вучні растлумачылі бацькам і суседзям тэхніку правядзення выбараў, парадак выстаўлення кандыдатур, сутнасць нашай двухпалатнай сістэмы і т. д. Вопыт паказвае, што ў многіх выпадках вучні зусім удала спраўляліся з гэтай задачай.

У сувязі з выбарчай кампаніяй будуць праходзіць мітынгі, даклады, сходы, дзе працоўныя будуць высоўваць і абгаварваць кандыдатуры дэпутатаў у Вярхоўны Совет СССР. Сур'ёзнае значэнне мае папулярызацыя кандыдатур, высунутых працоўнымі ў Вярхоўны Совет, і агітацыя за іх.

*Вялікай радасцю і гонарам для працоўных БССР з'яўляецца згода тов. Варашылава балаціравацца па Менскай выбарчай акрузе.* Неабходна паказаць вучням велізарнае палітычнае значэнне гэтага факта, трэба шырока паставіць вывучэнне жыцця і барацьбы тав. Варашылава—вялікага рэвалюцыянера, першага маршала Совецкага Саюза, жалезнага наркома абароны, лепшага саратніка тав. Сталіна.

Піонеры і школьнікі павінны сачыць за абвесткамі аб выбарчых сходах, даводзіць аб іх да ведама старэйшых членаў сваёй сям'і. Старэйшыя вучні павінны на гэты час заставацца дома з малымі дзецьмі, каб даць магчымасць сваім маткам прысутнічаць на выбарчых сходах.

6. Вучні 8, 9, 10 класаў могуць прыняць удзел у агітбрыгадах, якія арганізуюцца мясцовымі ўстановамі ў радзе раёнаў. У агітбрыгаду ўваходзяць: кіраўнік брыгады—член партыі або комсамолец, палітычна больш развіты, 2—3 чалавекі, адказных за перасовачную выстаўку „Сталінская Канстытуцыя“ (на 5—6 шчытах даюцца наглядныя матэрыялы аб Сталінскай Канстытуцыі і аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР). Агітбрыгада арганізуе распаўсюджанне літаратуры аб Сталінскай Канстытуцыі. Для гэтага адзін з удзельнікаў агітбрыгады арганізуе кніжны кіёск. Тут-жа арганізуецца стол даведак па пытаннях, звязаных з выбарамі ў Вярхоўны Совет СССР. Агітбрыгада праводзіць паказ адпаведных кінокарцін. Добра мець з сабой таксама і патэфон з пласцінкамі даклада тав. Сталіна і прамовы тав. Молатава на VIII з'ездзе Советаў. Пасля гутаркі аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР агітбрыгада арганізуе мастацкія выступленні, прысвечаныя Канстытуцыі. У гэтых выступленнях прымае ўдзел як агітбрыгада, так і мясцовая моладзь. Асноўная мэта

выездаў такой агітбрыгады—тлумачэнне нашага выбарчага закона і прапаганда ідэй Сталінскай Канстытуцыі.

7. У школьных залах, у карыдорах трэба вывесіць мастацкі выкананыя плакаты, лозунгі, якія тлумачылі-б вучням сутнасць пастановы ЦВК СССР аб пачатку выбарчай кампаніі і значэнне дня выбараў. Плакаты павінны таксама ўказваць вучням на іх абавязкі ў сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Совет. Фасад школьнага будынка павінен да дня выбараў быць мастацкі аформлены лозунгамі, плакатамі, карцінамі, якія папулярызавалі-б нашу Сталінскую Канстытуцыю і нашу выбарчую сістэму.

8. У атрадных і школьных насценгазетах трэба асвятляць ход соцыялістычнага спаборніцтва паміж класамі і атрадамі на лепшыя паказчыкі вучэбна-выхаваўчай работы і на лепшы ўдзел у падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

У насценных газетах неабходна змяшчаць фотакарткі маладых выбаршчыкаў-вучняў. Газеты павінны падаваць матэрыял палітычна завострана, павінны змагацца за ўзняцце палітычнай актыўнасці і свядомасці вучняў.

9. Было-б добра на відным месцы ў школе арганізаваць куток або шчыт, дзе змясціць найбольш цікавыя матэрыялы па выбарчай кампаніі, узоры выбарчых бюлетэняў, фотаздымкі выстаўленых у гэтай выбарчай акрузе кандыдатаў у Вярхоўны Совет, іх біяграфіі, у якіх падкрэсліваліся-б найбольш цікавыя моманты іх жыцця, барацьбы, адданасці комуністычнай партыі і совецкаму народу. Тут-жа можна вывесіць адпаведныя выразкі з газет і журналаў, а таксама матэрыялы, якія характарызавалі-б удзел школы ў падрыхтоўцы да выбараў.

10. У цэнтры і на месцах ужо створаны цэнтральныя, акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі. Шмат хто з настаўнікаў з'яўляюцца членамі гэтых выбарчых камісій. Яны абавязаны расказаць вучням аб рабоце выбарчых камісій. У цэлым радзе школ памясціліся выбарчыя ўчасткі. Школа павінна аказаць участковай выбарчай камісіі самы радасны прыём. Вучні з першага дня арганізацыі выбарчага ўчастка павінны аказаць яму неабходную дапамогу: упрыгожыць памяшканне, вывесіць плакаты, лозунгі, арганізаваць у пакоі, дзе выбаршчыкі будуць чакаць сваёй чаргі, выстаўку „Сталінская Канстытуцыя", прыняць удзел у абсталяванні пакоя для дзяцей, скласці альбом „Нашы дасягненні", альбомы з біяграфіямі высунутых кандыдатаў у дэпутаты. Такая-ж работа можа быць праведзена вучнямі і ў тым выпадку, калі выбарчы ўчастак знаходзіцца недалёка ад школы.

11. Да дня выбараў у Вярхоўны Совет вучні сумесна з дарослымі павінны прывесці ў святочны выгляд кватэры, двор; фасад будынка трэба ўпрыгожыць плакатамі, лозун-

гамі, партрэтамі кіраўнікоў партыі, сцягамі. У вялікіх дамах, дзе жыве многа сем'яў, неабходна загадзя выдзеліць пакоі для дзяцей. Школьнікі і піянеры ў дзень выбараў арганізуюць дзяжурства ў гэтых пакоях. Яны прыносяць цацкі, арганізуюць з дзецьмі гульні і танцы. У гэты дзень дзецям павінна быць асабліва весела.

12. 11-га снежня ўвечары арганізуюцца па школах вечары, прысвечаныя выбарам у Вярхоўны Совет СССР. Па свайму зместу гэта будуць вечары 3-х пакаленняў. Дарослыя рабочыя, калгаснікі і настаўнікі раскажуць дзецям аб выбарах у дарэвалюцыйнай Расіі: як і каго тады выбіралі, чые інтарэсы адлюстроўвалі гэтыя выбары. Яны павінны расказаць дзецям, як змянілася жыццё з таго часу, што зрабіла совецкая ўлада і комуністычная партыя для шчасця нашага народа, падкрэсліваючы асабліва вялікія клопаты партыі Леніна—Сталіна аб нашых дзецях і школе.

Маладыя выбаршчыкі, вучні 9 і 10-х класаў, якія будуць у наступны дзень галасаваць, павінны ў яркай форме—у вершах, у песнях, інсцэніроўках—паказаць, што яны ведаюць, каго і як выбіраць у советы. У іх словах павінна адчувацца веліч нашай Сталінскай Канстытуцыі і выбарчай сістэмы. Вечар заканчваецца мастацкай самадзейнасцю дзяцей і калектыўным зваротам вучняў школы да сваіх бацькоў, братоў і сёстраў, старэйшых таварышоў, якія ў наступны дзень будуць выбіраць у Совет, каб яны заўтра галасавалі за кандыдатаў, адданых да канца справе соцыялізма, справе вялікіх Леніна, Сталіна, каб яны выбіралі ў Вярхоўны Совет СССР толькі смелых, мужных, чэсных, здольных змагацца пад кіраўніцтвам партыі за інтарэсы совецкага народа.

На гэтым жа вечары абвяшчаюцца вынікі соцыялістычнага спаборніцтва паміж вучнямі на лепшыя паказчыкі вучобы і дысцыпліны. Пры гэтым асабліва падкрэсліваюцца дасягненні маладых вучняў-выбаршчыкаў.

13. У дзень 12 снежня ўсе вучні адзяюцца па-святочнаму. З самага ранку вылучаныя старэйшыя вучні ідуць дзяжурыць у дзіцячыя пакоі з тым, каб даць магчымасць маткам выканаць свой грамадзянскі абавязак—удзельнічаць у выбарах у Вярхоўны Совет СССР.

Увечары 12 снежня пры добрым надвор'і вучні арганізоўваюць масавае гулянне моладзі (гульні, фейерверкі, ракеты, танцы і т. д.). Дзень 12 снежня павінен астацца ў памяці кожнага вучня, як самы вялікі ў яго жыцці.

У нашым адказе мы ўказалі на рад мерапрыемстваў, якія школа можа ажыццявіць у сувязі з падрыхтоўкай да выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Мы ўпэўнены, што практыка работы школ выявіць вялікі лік надзвычайна важных і цікавых момантаў, якія тут у нас не адзначаны. Важна

толькі, каб дырэктары школ сумесна з вучнёўскімі арганізацыямі неадкладна склалі план удзелу школы ў гэтай вялікай справе і прыступілі да яго выканання.

Дырэктары і загадчыкі школ, класныя кіраўнікі, важатыя і комсоргі павінны добра зразумець, што ўсе гэтыя мерапрыемствы не могуць ажыццяўляцца самацёкам. Гэтыя мерапрыемствы патрабуюць чоткага і аператыўнага кіраўніцтва. Ні адно мерапрыемства не можа праводзіцца без ведама дырэктара і ўдзелу ў ім прымацаванага настаўніка. Актыўны ўдзел настаўнікаў у выбарчай кампаніі і ўмелае выкарыстоўванне гэтай важнейшай палітычнай кампаніі ў мэтах комуністычнага выхавання дзяцей з'яўляецца экзаменам палітычнай спеласці нашых настаўнікаў. Піонерская і комсамольская арганізацыі, узначальваючы палітычную актыўнасць дзяцей у час выбарчай кампаніі, павінны выкарыстаць яе для таго, каб яшчэ больш палепшыць сваю работу, яшчэ цясней звязацца з масамі вучняў.

Не трацячы часу, складзіце канкрэтны аператыўны план, вылучыце адказных за правядзенне кожнага мерапрыемства, устанавіце кантроль за тым, як гэтыя мерапрыемствы ажыццяўляюцца. Выкарыстайце палітычны ўздым вучняў для таго, каб зрабіць гэты навучальны год самым знамянальным годам у жыцці вашай школы, годам самых высокіх паказчыкаў вучэбна-выхаваўчай работы.

*Старшыя навуковыя работнікі НДІ школьнай педагогікі*
*І. ФРЭЙДМАН, М. ЛЯВІЦКІ*

---

## ЯКІЯ ПІСЬМОВЫЯ РАБОТЫ ДАВАЦЬ ВУЧНЯМ VIII—X КЛ.

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА С., 6-Я СЯРЭДНЯЯ ШКОЛА, г. ОРША)

Згодна праграмы 1937 г., пісьмовыя работы ў 8—10 кл. уяўляюць з сябе працяг і ўскладненне ўкладанняў, пачатых у 7-м класе, прычым агульная мэта, якая ставіцца перад гэтым відам пісьмовых работ, заключаецца ў развіцці ў вучняў навыка выкладаць лагічна і стройна свае думкі і меркаванні па таму ці іншаму пытанню, пабудаваць ход сваіх думак у вядомым кампазіцыйным парадку, зрабіць пэўныя вывады і заключэнні.

Від пісьмовых работ, уводзячых вучняў у тэхніку навукова-празаічнага ізлажэння, называецца ўкладаннем тыпа разважання. У сувязі з гэтым у праграму 8-га класа ўключаецца знаёмства з элементамі логікі (адрозненне паняццяў родавых і відавых, аднародныя і рознародныя паняцці, дзяленне паняццяў і т. д.).

Такім чынам, у пісьмовых работах вучняў 8—10 класаў прыходзіцца патрабаваць больш глыбокага аналіза фактаў і ідэй, чым гэта мела месца ў работах 6—7 класаў, прывучаць да выражэння сваіх крытычных адносін да ізлагаемага, навыка аргумантаваць сваю думку і, наогул, свядомага ўмення карыстацца словам. Натуральна, што работа над „разважаннем" павінна весціся сістэматычна на 3-х апошніх годах навучання, бо ў пабудове „разважанняў" вялікае значэнне набывае самы план работы, паслядоўнасць і сістэма размяшчэння матэрыялу.

Віды работ у парадку ўзрастаючай складанасці могуць праводзіцца ў наступнай паслядоўнасці.

### VIII клас

Работа над характарыстыкай розных відаў: характарыстыка асобнага літаратурнага героя, выдзяленне і камбініраванне найбольш тыповых рысаў, унутраных і знешніх асаблівасцей (партрэт героя), параўнальны элемент у харак-

тарыстыцы, паралельныя і кантрастныя вобразы (Чычыкаў і Плюшкін, Еўгеній Онегін і Ленскі і т. п.).

Для характарыстыкі маюць значэнне толькі факты, якія даюць ключ да разумення данага героя або грамадскай групы, а таму неабходна прывучаць вучняў рабіць з літаратурнага матэрыялу пэўны адбор момантаў асноўных і другарадных.

Разам з гэтым ідзе распрацоўка самой схемы разважання і прывядзення доказаў, а таксама складанне разважанняў па калектыўна складзенаму плану: „Значэнне соц. спаборніцтва ў жыцці школы, класа“, „Якія магчымасці адкрываюцца перада мной па сканчэнні школы“ (выбар прафесіі) і т. п.

Трэба заўважыць, што ў самым выбары тэмы выкладчык улічвае інтарэсы вучняў, іх веды, вопыт і т. д. Вялікае месца ў такога рода ўкладаннях павінны займаць тэмы нашай социялістычнай рэчаіснасці: подвігі герояў нашай Чырвонай арміі, лётчыкаў, перадавых рабочых, вучоных-даследчыкаў, характарыстыка новых людзей, адважных, настойлівых, ахопленых творчым энтузіязмам. Такія тэмы выклікаюць глыбокі інтарэс вучняў і маюць вялікае выхаваўчае значэнне.

## IX клас

Работа тыпа разважання і характарыстыкі мае ўжо больш абагульняючы характар. Разам з характарыстыкай асобных літаратурных вобразаў трэба прапанаваць укладанні, якія ставяць задачай даць агульную характарыстыку рада літаратурных вобразаў, прадстаўнікоў пэўных соцыяльных груп і т. п. („Семья Простаковых“. „Уездное дворянство в изображении Пушкина по роману „Евгений Онегин“ і т. д.). Адначасова вучні прывыкаюць карыстацца ў сваіх работах літаратурна-крытычным матэрыялам. Для гэтай мэты з імі прапрацоўваецца рад артыкулаў, з якіх вучні павінны навучыцца браць іменна тое, што з'яўляецца самым неабходным для задуманай работы. Праграма раіць у IX класе прапрацоўку наступных крытычных артыкулаў:

1. В. І. Ленін—„Л. Толстой, как зеркало русской революции“.

2. В. І. Ленін—„Толстой и современное рабочее движение“.

3. В. І. Ленін—„Толстой и его эпоха“.

4. Н. А. Дабралюбаў—“Что такое обломовщина“.

5. „ „ —„Луч света в темном царстве“.

Можна прапанаваць вучням з артыкула В. І. Леніна „Л. Толстой, как зеркало русской революции“ выбраць матэрыял на тэму „Противоречия Л. Толстого в оценке

В. И. Ленина“ і адначасова прыпомніць у асноўным змест усіх вывучаных да гэтага часу твораў Л. Талстога: „Детство“, „Поликушка“, „Севастопольские рассказы“, „Утро помещика“, „Три смерти“. Пасля гэтага настаўнік прапануе вучням прадумаць некалькі пытанняў па тэме і на іх адказаць.

Такая пісьмовая работа будзе абагульненнем і сістэматызацыяй вывучанага з твораў Талстога ў святле ленінскіх палажэнняў.

Падобным чынам з артыкула Дабралюбава „Луч света в темном царстве“ можна прапанаваць выбраць і апрацаваць матэрыял на тэму: „Образ Катерины в оценке Добролюбова“, увязаўшы гэта з матэрыялам драмы Астроўскага.

Апісаныя работы прывучаюць вучняў апераваць крытычным тэкстам, выбіраць асноўнае, рабіць цытаты і выпіскі і, па меры неабходнасці, выкарыстоўваць гэты матэрыял у сваёй рабоце.

## X клас

Работа ідзе па ўказаных вышэй асноўных лініях, але павялічваюцца патрабаванні да вучнёўскага ўкладання ў адносінах паўнаты і зместу, умення развіваць і аргументаваць асноўныя палажэнні, стылістычнай закончанасці і агульнай правільнасці слоўнага афармлення. Тэмамі для ўкладанняў у 10 класе можа служыць аналіз пэўнага літаратурнага пытання, характарыстыка творчасці пісьменніка або асобнага перыяда ў развіцці яго літаратурнай дзейнасці, напрыклад: „Люди в футлярах в произведениях Чехова“ (указаць пэўны твор), „Жизнь и идеалы революционной интеллигенции 60-х годов по роману Чернышевского „Что делать“, „Мотивы народной поэзии в поэме „Кому на Руси жить хорошо“ Некрасова“, „Критика столичной аристократии в романе“ “Анна Каренина“ Л. Толстого“.

Указаныя работы на літаратурныя тэмы не павінны замыкацца ў вузкія рамкі канстатавання фармальных асаблівасцей творчасці пісьменніка або твора, а павінны мець самую непасрэдную сувязь з пытаннямі сучаснасці, з усім тым, што захапляе і хвалюе нашу грамадскасць. Так па твору „Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну“ можна даць тэмы: „Социялістычнае будаўніцтва ў Савецкай Беларусі“, „Росквіт нацыянальнай па форме і социялістычнай па зместу культуры нашай радзімы“. Па творчасці М. Горкага можна паставіць тэму: „Гимн труду в творчестве М. Горького“ (указаць пэўныя творы).

Па пытанню методыкі пісьмовых работ у старшых класах можна ўказаць артыкулы:

1. Мірскі — „Вопросы методики сочинений на литературные темы“, „Литература в школе“, 1936 г., кн. 4.

2. Савіч—„Сочинения на литературные темы в VIII—X кл. (из материалов совещания по учету опыта учителей-словесников)“, „Литература в школе“, 1937 г. кн. 5.

Трэба заўважыць, што ў старшых класах выкладчык павінен звярнуць асаблівую ўвагу на самую тэхніку выканання дамашніх работ. Ён павінен пазнаёміць вучняў з парадкам папярэдняга збірання матэрыялу, з яго запісам, планаваннем, з працэсам апрацоўкі чарнавіка і канчатковым выпраўленнем напісанага. Настаўнік павінен унядрыць у свядомасць вучняў думку аб тым, што дамашняе ўкладанне ствараецца ў выніку сістэматычнай і працяглай працы, што самы тэрмін часу, адведзены для яго выканання, павінен быць умела выкарыстаны і што работа не павінна выконвацца наспех.

У мэтах стымуляцыі вучняў да сур'ёзных адносін у выкананні дамашніх работ выкладчык павінен пазнаёміць іх з вытрымкай з успамінаў Д. І. Ульянава аб тым, як В. І. Ленін у гімназіі пісаў укладанні. Указаны ўрывак дае вучню даволі яснае ўяўленне аб асноўных метадычных момантах у выкананні дамашніх работ: аб тэхніцы накаплення матэрыялу, падрыхтоўцы чарнавіка, выпраўленні і канчатковай апрацоўцы ўкладання і ў той-жа час падкрэслівае неабходнасць сур'ёзных і ўдумлівых адносін да работы.

*Старшы навуковы работнік НДІ*
*школьнай педагогікі В. ТЭПІН.*

---

# ЯК ПАЎТАРАЦЬ ГРАМАТЫКУ Ў V—VII КЛАСАХ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА А., КУЗЬМІНСКАЯ НСШ, МЕХАЎСКІ Р-Н)

Паўтарэнне пройдзенага—адзін з сродкаў для замацавання ведаў. Значныя недахопы як у пісьмовай, так і ў вуснай мове нашых вучняў тлумачацца недастаткова добра наладжанай работай па замацаванню ведаў, па паўтарэнню пройдзенага.

Зразумела, паўтарэнне ў нашым педагагічным працэсе не павінна быць выпадковым. Яно павінна з'яўляцца жывой стройнай сістэмай выкладання.

Неабходна ўлічваць вялікае значэнне сістэматычнага паўтарэння пройдзенага матэрыялу: на ўроку, у канцы чвэрткі, поўгоддзя і ўсяго года. Вывучэнне кожнага раздзела неабходна заканчваць паўтарэннем.

Асоба важнае значэнне мае паўтарэнне ў сувязі з ізлажэннем новага матэрыялу.

Напрыклад, у 5-м класе пры вывучэнні дзеяслова можна паўтарыць звесткі аб спосабах утварэння назоўнікаў ад дзеяслова, можна паўтарыць і параўнаць суфіксы дзеясловаў, назоўнікаў, прыметнікаў і інш.

Пасля праходжання дзеяслова неабходна выдзеліць спецыяльны ўрок для паўтарэння гэтай тэмы. План урока, прыкладна, можа быць такі:

а) Паўтарэнне агульных звестак аб дзеяслове (указанне прызнакаў дзеяслова, яго азначэнне).

б) Выдзяленне дзеясловаў у сказе і назва формы, у якой ужыты гэтыя дзеясловы ў даным выпадку (асоба, час, лад і інш.).

в) Указанне спосабу ўтварэння дзеясловаў (прыстаўкі, суфіксы).

г) Правапіс дзеясловаў з прыстаўкамі. У парадку параўнання правапіс назоўнікаў і прыметнікаў з прыстаўкамі.

д) Правапіс дзеяслоўных суфіксаў. Адначасова правапіс некаторых суфіксаў назоўнікаў і прыметнікаў.

е) Правапіс „не“ і „ні“ з дзеясловамі.

У 6-м класе пры праходжанні дзеяпрыметніка неабходна коратка паўтарыць прыметнік і дзеяслоў; гэта палегчыць вучням скласці паняцце аб дзеяпрыметніку, аб яго формах, аб дапасаванні дзеяпрыметнікаў да назоўнікаў.

У 7-м класе, расказваючы аб дзеяпрыметных словазлучэннях, трэба паўтарыць звесткі аб даданых сказах, аб спосабах сувязі іх з галоўнымі, аб знаках прыпынку і інш.

Трэба часта ўжываць марфалагічны і сінтаксічны разбор, які дае шырокую магчымасць для паўтарэння пройдзенага. У адным і тым жа сказе пры разборы могуць сустрэцца і выпадкі, непасрэдна адпавядаючыя тэме ўрока, і выпадкі, дазваляючыя паўтарыць які-небудзь важны раздзел з раней пройдзенага.

Нарэшце, асабліва важна паўтарэнне пры разглядзе кантрольных работ. Кантроль—не толькі праверка, але і павышэнне ведаў вучняў. Пры праверцы кантрольнага дыктанта неабходна весці якасны аналіз памылак, а затым праводзіць з вучнямі работу над памылкамі шляхам паўтарэння пройдзенага.

Такім чынам, паўтарэнне праграмнага матэрыялу павінна весціся сістэматычна на працягу ўсяго навучальнага года. Яно павінна быць арганізавана так, каб да часу іспытаў быў паўтораны ўвесь пройдзены матэрыял.

У залежнасці ад формы і зместу прапрацоўваемага матэрыялу неабходна ўжываць самыя разнастайныя віды і метады замацавання і паўтарэння пройдзенага. Аднастайныя прыёмы работы настаўніка часта выклікаюць у вучняў адмоўныя эмоцыі. Чаргаванне розных форм работы, безумоўна, зацікавіць вучняў. Увядзенне новага практыкавання па вывучаемай тэме, новая пастаноўка пытанняў, новыя прыёмы параўнанняў і проціпастаўленняў—усё гэта ўзнімае актыўнасць вучняў на ўроках паўтарэння.

Як бачым, для таго каб паўтарэнне было эфектыўным і зацікавіла вучняў, патрэбна сур'ёзная і своечасовая падрыхтоўка да кожнага ўрока, добрасумленныя адносіны да сваёй работы.

Мы тут абмежаваліся толькі агульнымі заўвагамі.

*Навуковы работнік С. ЦЭХАНОВІЧ.*

---

# ЯК ТЛУМАЧЫЦЬ СКЛАНЕННІ НАЗОЎНІКАЎ У III-м КЛАСЕ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА С., ВЕТРЫНСКАЯ НСШ, БЫХАЎСКІ Р-Н).

## 1. Паняцце аб скланенні назоўнікаў

Асноўнай формай работы па засваенню скланенняў назоўнікаў павінна быць назіранне форм назоўнікаў у звязным тэксце, уясненне значэння гэтых форм і разбор іх у сказах у сувязі з тымі словамі, ад якіх даная форма залежыць. Назва склонаў і ўзоры скланення павінны быць завучаны дзецьмі, але галоўнае—гэта ўменне вучняў разбірацца ў формах слоў у звязнай мове—у сказе. Таму дзеці павінны практыкавацца ў вусным і пісьмовым разборы. Пры запісванні канчаткаў настаўніку неабходна карыстацца каляровым мелам і граматычнымі і арфаграфічнымі табліцамі (калі няма друкаваных, можна зрабіць самому). Пры праходжанні склонавых форм трэба карыстацца табліцамі з малюнкамі.

| Скланенне назоўнікаў | | |
|---|---|---|
| Прыбег хто? | Малюнак „Крот“ Крот. | Назоўны склон |
| Бачны сляды каго? | Малюнак „Сляды крата“ | Родны |
| Хлопчык пабег за кім? | Мал. „Хлопчык бяжыць за кратом“ | Творны |
| Хлопчык падкраўся к каму? | Мал. „Хлопчык крадзецца к крату“ | Давальны |
| Хлопчык злавіў каго? | Мал. „Хлопчык злавіў крата“ | Вінавальны |
| Хлопчык расказвае аб кім? | Мал. „Хлопчык расказвае таварышам аб краце“ | Месны |

Пасля ўяснення мэты ўрока настаўнік вывешвае табліцу — скланенне ў рысунках, праводзіць разбор яе. На дошцы выпісваецца слупком скланенне слова „крот“, звяртаецца ўвага на змяненне канчаткаў, якія пішуцца мелам другога колера або падкрэсліваюцца. Пасля назоўніка адпаведнай формы ставіцца пытанне склона і назва склона. Вучні III класа з вялікімі цяжкасцямі засвойваюць склоны; настаўніку трэба дабіцца ад вучняў яснага ўяўлення склонавых форм і іх ужывання ў сказе. Далейшае замацаванне склонаў трэба праводзіць шляхам складання скланення адпаведнага назоўніка ў сказах. Вучні пад кіраўніцтвам настаўніка, пасля разглядвання табліцы скланення „крот“, запісваюць скланенне слова „самалёт“ у сказах. „Самалет быў на аэрадроме. Да самалёта падышоў летчык. К самалёту сталі накіроўвацца пасажыры. Лётчык агледзеў самалёт. Ён застаўся здаволены самалётам. Пасажыры і лётчык паляцяць на самалёце“. Пасля запісу разбіраецца запісанае, ставяцца пытанні і называюцца склоны. Заданне на дом—зрабіць ілюстрацыі да запісаных сказаў з пытаннямі і назвай склонаў.

На наступным уроку правяраецца заданне, потым разбіраецца задача 75, дзе патрэбна ўставіць скланенне слова „атрад“ спачатку вусна, потым пісьмова, і толькі пасля раду такіх работ праводзіцца звычайнае скланенне назоўнікаў вусна і пісьмова.

### 2. Практыкаванне на распазнаванне роднага і вінавальнага склонаў

Вучні надта цяжка адрозніваюць родны склон ад вінавальнага. На набыццё навыка распазнавання і адрознівання гэтых склонаў трэба адвесці спецыяльныя гадзіны. Трэба загадзя падрыхтаваць і вывесіць дзве табліцы.

*Табліца № 1*

| Дзейнік | Выказнік | Паясняльнае слова |
|---|---|---|
| Прадмет | Дзеянне | — |
| Што? Мячык | падскочыў | высока |
| Што? Дуб | расце | ў лесе |
| Што? Лёд | рушыўся | на рэчцы |
| Гэтыя словы трэба напісаць чырвоным алоўкам | | |

*Табліца № 2*

| Дзейнік | Выказнік | Паяснянльнае слова |
|---|---|---|
| Прадмет | Дзеянне прадмета | Прадмет, на які дзеянне пераходзіць |
| Хлопчык | кінуў [што?] | мячык |
| Бура | вырвала [што?] | дуб |
| Сонца | растапіла [што?] | лёд |
| | | Гэтыя словы трэба напісаць чырвоным алоўкам |

Па табліцах праводзяцца параўнанні слоў, напісаных чырвоным алоўкам. Устанаўляецца, што напісанне іх аднолькавае, а склоны розныя. На табліцы № 1 гэтыя словы з'яўляюцца дзейнікамі і стаяць у назоўным склоне; на табліцы № 2—паясняльнымі словамі, якія абазначаюць пераход дзеяння, і стаяць у вінавальным склоне.

Пасля разбору табліц настаўнік дае рад сказаў са словам у вінавальным склоне і прапануе вучням прыдумаць сказы, дзе гэтае слова стаяла-б у назоўным склоне і наадварот. Далей даецца рад слоў і прапануецца на кожнае слова прыдумаць сказ, дзе яно стаяла-б у вінавальным, а потым у назоўным склоне.

На дом даецца заданне запісаць сказы на разабранае правіла.

Трэба правесці аналагічную работу на адрозніванне вінавальнага ад роднага склонаў (жывыя прадметы).

*Настаўніца 25-й сярэдняй школы*
*г. Менска СТРЭЙКЕС*

---

# ЯК СКЛАСЦІ РАСКЛАД ДЛЯ ДВУХКАМПЛЕКТНАЙ ШКОЛЫ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА С., ПЯРУНАЎСКАЯ ШКОЛА, ЧЫГІРЫНСКІ с/с, КІРАЎСКІ Р-Н)

З той прычыны, што настаўніку двухкамплектнай школы, за вельмі рэдкім выключэннем, прыходзіцца на адным і тым-жа ўроку праводзіць заняткі ў двух класах, яму неабходна асабліва старанна рыхтавацца да ўрокаў, вельмі чотка арганізаваць іх і магчыма хутчэй навучыць вучняў рацыянальна працаваць. Настаўніку неабходна забяспечыць бесперапынны нагляд за вучнямі і неабходную ім дапамогу.

Работа ідзе лепш, калі супадаюць адны і тыя-ж прадметы ў розных класах, з якімі працуе настаўнік. Яму тады лягчэй кіраваць работай абодвух класаў.

Гэтае праверанае практыкай палажэнне і павінна быць узята за аснову пры складанні расклада ўрокаў.

Пры планаванні работы трэба разлічваць час так, каб тлумачэнне новага матэрыялу не супадала ў абодвух класах, бо ў адваротным выпадку настаўнік не зможа рацыянальна пабудаваць работу.

Неабходна планы ўрокаў на наступны дзень абавязкова складаць адначасова для двух класаў. У залежнасці ад матэрыялу трэба дзяліць кожны ўрок па часу на дзве роўныя або няроўныя часткі (у 35 і 10 мінут). Адну частку гэтага часу дзеці працуюць з настаўнікам, другую—самастойна. Калі тлумачэнне новага матэрыялу або заняткі па замацаванню пройдзенага ў абодвух класах супадаюць, урок звычайна дзеліцца на роўныя часткі. У адваротным выпадку аднаму класу настаўнік удзяляе больш часу, чым другому.

Пры наяўнасці ў адных руках І і ІІІ класаў настаўнік на працягу года больш часу праводзіць з І класам. Працуючы з ІІ і IV класамі, настаўнік больш непасрэдна працуе з IV класам.

З прычыны таго, што на кожны клас прыходзіцца параўнальна нямнога часу для непасрэднай работы з настаўнікам, неабходна ўсю работу ў цэлым прадумаць і арганізаваць так, каб ушчыльніць работу вучняў з настаўнікам і за-

бяспечыць планамернасць і прадукцыйнасць самастойнай работы.

Важнасць і складанасць работы настаўніка пры гэтых умовах заключаецца ў тым, каб, арганізаваўшы дзяцей для самастойнай работы, не выпускаць іх з-пад сваёй увагі ў час непасрэднай работы з другім класам і, не парушаючы планамернасці апошняй, заўсёды своечасова прыйсці на дапамогу асобным вучням або класу ў цэлым, які ў даны момант працуе самастойна. Настаўнік павінен актыўна працаваць з двума класамі, ні на мінуту не пакідаючы кожны з іх без кіраўніцтва. Усе 45 мінут кожнага ўрока павінны быць поўнацэннымі для вучняў абодвух класаў, адведзены на ўрок час павінен быць выкарыстаны поўнасцю.

Ніжэй падаем прыкладны расклад заняткаў.

*Навуковы работнік НДІ школьнай педагогікі ШАФАЛОВІЧ*

---

# Р А С К Л А Д

**для двух класаў аднакамплектнай пачатковай школы па новай сетцы (для беларускай школы)**

| | Класы | 1 урок | 2 урок | 3 урок | 4 урок |
|---|---|---|---|---|---|
| Першы дзень | 1 | Бел. мова, чытанне | Арыфметыка | Бел. мова, пісьмо | Фізвых |
| | 3 | Бел. мова, пісьмо | Арыфметыка | Руск. мова, чытанне | Фізвых |
| Другі дзень | 1 | Арыфметыка | Бел. мова, чытанне | Чыстапісанне | Бел. мова, пісьмо |
| | 3 | Арыфметыка | Руск. мова, пісьмо | Бел. мова, пісьмо | Прыродазнаўства |
| Трэці дзень | 1 | Бел. мова, чытанне | Арыфметыка | Бел. мова, пісьмо | Спевы |
| | 3 | Руск. мова, пісьмо | Арыфметыка | Прыродазнаўства | Спевы |
| Чацверты дзень | 1 | Арыфметыка | Бел. мова, чытанне | Бел. мова, пісьмо | Чыстапісанне |
| | 3 | Арыфметыка | Руск. мова, пісьмо | Геаграфія | Бел. мова, чытанне |
| Пяты дзень | 1 | Бел. мова, чытанне | Арыфметыка | Маляванне | Бел. мова, пісьмо |
| | 3 | Бел. мова, пісьмо | Арыфметыка | Гісторыя | Руск. мова, чытанне |
| Шосты дзень | 1 | Арыфметыка | Бел. мова, чытанне | Бел. мова, пісьмо | Арыфметыка |
| | 3 | Арыфметыка | Бел. мова, пісьмо | Бел. мова, чытанне | Маляванне |

## Арыфметыка ў I і III класах

*(Урок адносіцца да тыпа ўрокаў, калі час настаўніка дзеліцца роўнамерна паміж двума класамі)*

**Прыкладны план урока**

| I клас | | III клас | |
|---|---|---|---|
| 9 г. 55 м, —10 г. 15 м. Настаўнік працуе з III класам | Рашэнне прыкладаў, запісаных настаўнікам да ўрока на дошцы | 9 г. 55 м. —10 г. 15 м. | 1. Вусны лік—5 мін. 2. Рашэнне задачы з задачніка 3. Заданне для самастойнай работы |
| 10 г. 15 м. —10 г. 40 м. | 1. Вусны лік 2. Праверка самастойна выкананай дзецьмі работы 3. Рашэнне задач, складзеных настаўнікам 4. Пісьмо лічбаў, якія цяжка даюцца дзецям. | 10 г. 15 м. —10 г. 40 м. Настаўнік працуе з I класам | Рашэнне прыкладаў |

## Беларуская мова ў I і III класах

*(Урок адносіцца да тыпа ўрокаў, калі час настаўніка дзеліцца няроўнамерна паміж двума класамі)*

**Прыкладны план урока**

| I клас | | III клас | |
|---|---|---|---|
| 9 г.—9 г. 02 м. | Настаўнік дае заданне вучням скласці з літар разразной азбукі знаёмыя дзецям словы -ау, ау, мама—і запісаць іх у сшыткі | 9 г.—9 г. 02 м. Настаўнік працуе з I класам | Запіс у сшытак дня і даты |
| 9 г. 02— 9 г. 11 м. | Складанне слоў—ау, ау, мама—і запіс іх дзецьмі ў сшытках | 9 г. 02 м. —9 г. 11 м. | Настаўнік паведамляе дзецям, як выконаць прадстаячую пісьмовую работу (скласці расказ з дэфармаванага тэкста) і раздае дыдактычны матэрыял |
| 9 г. 11 м. —9 г. 45 м. | Прапрацоўка 12-й старонкі буквара | 9 г. 11 м. —9 г. 45 м Настаўнік працуе з I класам | Вучні складаюць з даных слоў расказ |

## ЯК НАВУЧЫЦЬ ДЗЯЦЕЙ НУМАРАЦЫІ ЛІКАЎ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА Ф., МІШНЯВІЦКАЯ НСШ, СІРОЦІНСКІ Р-Н)

Пытанне аб нумарацыі лікаў даволі падрабязна распрацавана ў любой методыцы арыфметыкі. Калі Вы працуеце ў пачатковай школе, то раім Вам пазнаёміцца з пастаноўкай і вырашэннем гэтага пытання ў дапаможніках Валкоўскага, Снігірова, Аржэннікава Многа карыснага можаце знайсці ў методыцы арыфметыкі Беразанскай у другім раздзеле. Там Вы таксама знойдзеце кароткія гістарычныя звесткі аб ліку і лічэнню.

Са свайго боку раім наступныя метадычныя прыёмы.

Да пачатку ўрока разлінуйце дошку наступным чынам:

| Тысячы | | | Адзінкі | | |
|---|---|---|---|---|---|
| сотні | дзесяткі | адзінкі | сотні | дзесяткі | адзінкі |
| 3 | 4 | 8 | 2 | 3 | 6 |
| 3 | — | 8 | 2 | 3 | 6 |
| 3 | 4 | — | 2 | 3 | 6 |

Вучні пад вашым кіраўніцтвам і пад вашу дыктоўку запісваюць шасцізначны лік спачатку без прапушчаных разрадаў, напрыклад 348 236, і запісваюць лічбы ў адпаведныя графы, затым аналізуюць запісаны лік наступным чынам:

У запісаным ліку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| соцень тысяч . . | 3 | соцень . . . . . | 2 |
| дзесяткаў тысяч . | 4 | дзесяткаў . . . . | 3 |
| адзінак тысяч . . | 8 | адзінак . . . . . | 6 |

Затым прапануецца напісаць лікі, напрыклад:

308236
340236
340036 і т. д.

Толькі пасля таго як навучылі дзяцей запісваць лік, якія не выходзіць за межы другога класа, пераходзіце да 3-га ліку—класа мільёнаў.

На дошцы даеце наступную схему:

| Мільёны | | | Тысячы | | | Адзінкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| сотні | дзесяткі | адзінкі | сотні | дзесяткі | адзінкі | сотні | дзесяткі | адзінкі |

Толькі пасля таго як вучні навучыліся запісваць лік, карыстаючыся разграфленай схемай, пераходзіце да заняткаў без схемы. Падрыхтаваную схему выкарыстайце для раду лікаў, запісваючы іх адзін пад другім; гэта дапаможа вам лепш высветліць паместнае значэнне лічбаў.

Вельмі раім вам у гэты перыяд вучобы прапанаваць вучням прыкладна наступныя практыкаванні:

$$300000+40000+3000+600+30+4=343\ 634$$
$$300000+40000+\quad\quad+600+30+4=340\ 634$$
$$300000+\quad\quad+3000+600+30+4=303\ 634$$

Звярніце ўвагу на тое, што складнікі з'яўляюцца разраднымі лікамі, г. зн. лікамі, запісанымі адной значымай лічбай з нулямі.

Карысна і адваротная аперацыя, напр.:

$$324\ 343=300000+20000+4000+300+40+3$$
$$320\ 343=300000+20000+\quad\quad+300+40+3$$

Дабіцеся таго, каб у абодвух выпадках разрадныя лікі падпісваліся б адзін пад другім так, як намі паказана,—з пропускам адсутнічаючай разраднай лічбы.

Вельмі вялікую карысць могуць вам аказаць так званыя шведскія шчоты, з вертыкальнымі палачкамі.

Дадаткова раім прачытаць § 35 раздзела VI па Валкоўскаму.

*Дацэнт матэматыкі САГАЛОВІЧ.*

---



